ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 31 красавік, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Сяргей АСТРАВЕЦ:

# «Найлепшыя пісьменнікі – журналісты...»

**– Шаноўны Сяргей Аляксандравіч, Вы з'яўляецеся ўкладальнікам Гродзенскага літаратурнага альманаха «Новы замак». Нядаўна выйшаў трэці выпуск яго. Распавядзіце, калі ласка, што чакае чытачоў у новым нумары і чым ён адметны?**

– Мне здаецца, нумар даволі цікавы. Ёсць новая рубрыка «Civitat Grodnensis», дзе тэксты пра Гродна. Надрукаваныя ўспаміны пра Васіля Быкава аўтарства Ігара Жука і Аляксея Пяткевіча. Яўген Петрашэвіч напісаў «Баладу пра Грунвальд» у незвычайным фальклорным стылі. Ала Петрушкевіч працягнула свае «Шчонаўскія абразкі» – пра аднавяскоўцаў, таксама апублікавала цікавыя ўспаміны пра паэта Юрыя Гуменюка.

У ідэале хочацца, каб аўтары прымервалі свае тэксты менавіта да альманаха «Новы замак», каб у змесце адчувалася лучнасць з назвай. Каб на вокладцы нельга было паставіць любую іншую «шыльду» і горад. Новы замак у Беларусі толькі адзін, а за ім пласты гісторыі, сярод якіх трапляюцца і літаратурныя сюжэты. Кожны нумар я імкнуся адкрываць тэкстам, звязаным менавіта з самім Новым замкам. У свежым – гэта «Рэцэпт апошняга караля», рэпартаж з замка.




**– Большасць ведае Вас асабіста не толькі як пісьменніка, але і як аўтара блогаў «Праз гарадзенскія акуляры» на сайце газеты «Наша Ніва» і «Дзённік пісьменніка» на сайце Радыё Свабода. Як у Вас атрымліваецца сумяшчаць журналісцкую працу з пісьменніцкай?**

– Журналіст – мая першая прафесія, асноўная, яна атрымана ва ўніверсітэце, пісьменнік – другая, набытая. Гэта ўдалае спалучэнне. Існуе архаічнае, памылковае меркаванне, што калі стаў пісаць прозу журналіст – гэта дрэнна. Такія стэрэатыпы замацавалі крытыкі. З іх вынікае, што калі ўзяўся за пяро хірург, настаўнік, бухгалтар, чыгуначнік – атрымаецца пісьменнік як мае быць. Але ж гэтыя людзі, будучы чытачамі, якім хочацца чагосьці большага, пераадольваюць цяжкі бар'ер, каб стаць творцамі. Журналіст – сам творца. Прычым матэрыял, з якім ён працуе, і таксама інструмент – гэта менавіта слова. Што ж яшчэ трэба?

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Сяргей Астравец – празаік, эсэіст, блогер. Аўтар кніг «Янычары» (1993), «Цэнзарскія нажніцы» (2000), «Лісты да хома саветыкуса» (2003), «Кактэйль Молатава» (2006), «Каты Ёзафа Ратцынгера» (2009), «Райскія яблычкі» (2012), «Жалезная заслона з арнаментам» (2012) і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Гродне.**

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Дэбіш Васіль. Чуйнар: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 224 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 58).**

Выданне складаецца з пяці раздзелаў, у кожным з якіх можна знайсці ўзоры філасофскай, пейзажнай, любоўнай, грамадзянскай лірыкі. Не дзіва, што творчы даробак спадара Васіля вялікі – пісьменнік шмат гадоў друкуецца ў абласной і рэспубліканскай прэсе і мае тры паэтычныя кнігі: «Белыя птахі», «Лісты да Марыі», «Праз дождж». Аўтар аддае перавагу класічнаму рыфмаванаму вершу, хаця ёсць і верлібры, а завяршаецца новы зборнік «жвірынкамі» – паэтычнымі мініяцюрамі.




**Кананові Ігар. Астэроід: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 124 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 59).**

У дэбютным зборніку ўвазе чытача прадстаўленыя выбраныя творы, напісаныя аўтарам цягам апошніх сямі гадоў. У трох раздзелах «Мір, падобны да раю», «На арбіце тваёй», «Бог ёсць зіма» змешчаныя вершы створаныя ў класічнай манеры, якія напоўніцу раскрываюць унутраны свет шчырай душы паэта, што гартуецца ў пакутах, спасцігаючы вечныя ісціны: паклікання, кахання і зямнога прызначэння чалавека.




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXIV. № 3 Укл. С. Астравец. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 212 с.**

Сёлета аўтары сталі звяртаць больш увагі на назву альманаха, у трэцім выпуску «Новага замка» надрукаваны вершы «Фантасмагорыя старога горада» Юркі Голуба, «Апошні кароль» Мечыслава Курыловіча, балада пра Грунвальд Яўгена Петрашэвіча. З'явіліся новыя рубрыкі. У «Civitat Grodnensis» аўтары паглыбляюцца ў легенды Гродна, яго нядаўняе мінулае. У «Фарбах Панямоння» мастакі перадаюць уласнае бачанне краявідаў і архітэктуры, выказваюцца на тэмы беларускай літаратуры, разважаюць пра скарбы мовы. Чытач знойдзе ў новым нумары ўспаміны пра Васіля Быкава.




**Жырандоля: літаратурны альманах. Брэст. № 6, 2015. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 204 с.**

Шосты выпуск альманаха Брэсцкага абласнога аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» складаюць творы розных жанраў і тэматыкі не толькі сяброў суполкі, але і творчай інтэлігенцыі вобласці – людзей, якія клапоцяцца пра лёс роднага слова, гісторыі і культуры Берасцейшчыны.




**Шамецька Юрась. Атава: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 128 с.**

Юрась Шамецька нарадзіўся ў Мінску, а з 1997 года жыве і працуе ў Канадзе. Аматары паэзіі ведаюць яго вершы па першай кнізе, сімвалічна названай «Шлях да вяртання». Другі зборнік вершаў названы таксама з глыбокім падтэкстам. Атава – гэта не толькі горад, дзе жыве паэт, але і трава, што вырасла ў той жа год на пакошы. Ёсць нешта неўтаймоўна жыццёвае ў гэтым сімвале. І наогул, творы Юрася Шамецькі шматасацыятыўна пашыраюць прастору беларускай паэзіі нават геаграфічна, як гэта ўжо адзначалі вядомыя крытыкі і літаратуразнаўцы.




**Плотка Алесь. Байсан: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 96 с.**

Байсан – альтэр-эга аўтара Алеся Плоткі. Вершніца на вокладцы – муза паэта. Менавіта яна, а не вершы, стала прычынай скандалу па выхадзе кнігі. Адзін з аўтараў вывы – мастак Уладзімір Крукоўскі – паабяцаў падаць на маладога паэта ў суд за скажэнне былога Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Хай і такім чынам, але ўвага чытачоў да кнігі прыцягнутая немалая...




**Бабаед Алесь. Каля чыстых крыніц: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 68 с.**

Новую кнігу паэта Алеся Бабаеда склалі вершы, якія апяваюць родны край, жыццё, каханне, вернасць сяброўству. Кніга прасякнута глыбокім філасофскім роздумам. Раней выйшлі кнігі вершаў «Крыжавыя дарогі», «Колеры шчасця і болю», «Ля вогнішча», «Цішыня прасторы», кніга прозы «Свячанка».




**Несцяровіч Уладзімір. Круты ўзлёт: аповесць. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 124 с.**

У аповесці распавядаецца пра гарадок Гранітагорск. Яго няма на геаграфічнай карце свету, не існуе і Грай-ракі. Аднак гісторыя, якая адбываецца з галоўным героем гэтага літаратурнага твора, зусім рэальная. Яна аб тым, што лёс – не адзіная вырашальная сіла, што ўладарыць над чалавечым жыццём.

«Круты ўзлёт» – трэцяя кніга Уладзіміра Несцяровіча. Першая – паэтычны зборнік «Сто дарог» – выйшла ў 2008 годзе. Затым пісьменнік выдае аповесць «Непрыручанае рэха». Пра сябе ён гаворыць так: «Крэда майго жыцця ёсць творчы пошук».




**Кудласевіч Анатоль. Трынаццаць дзён: зборнік духоўнай прозы і паэзіі. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 348 с.**

У зборнік духоўнай прозы і паэзіі Анатоля Кудласевіча «Трынаццаць дзён» уваходзяць творы, якія часткова друкаваліся ў перыёдыцы або выходзілі асобнымі выданнямі. Кніга зацікавіць перш за ўсё людзей увацаркоўленых або тых, хто толькі набліжаецца да царквы і пачынае самастойна шукаць адказы на вечныя пытанні. Аўтарскае крэда палягае ў думцы, што літаратура павінна абуджаць душу і розум чалавека, каб скіраваць яго да вечных каштоўнасцяў і пракаветных ісцінаў, кажучы па іншаму, літаратура і мастацтва, калі яно сапраўднае, падштурхоўвае чалавека да храма. Вечныя пытанні быцця, пытанні жыцця і смерці, месца чалавека на зямлі, яго адказнасць перад Богам і перад нашчадкамі – усё гэта хвалюе аўтара: рэлігія, філасофія, чалавек – асноўныя тэмы зборніка.




**Воранаў Віталь. «Шэптам»: проза. – Białystok: EkoPress, 2014. – 166 с.**

Кніга апавяданняў «Шэптам», інспіраваная паганскай традыцыяй, народнай медыцынай і шаптунствам беларускага Палесся і Падляшша. Зборнік 18 тэкстаў заснаваны на матэрыялах, сабраных падчас экспедыцыі па рэгіёне беларуска-польскага памежжа. Кніга выйшла па-беларуску і ў перакладзе Манікі Уранэк на польскую мову. Ілюстрацыі выканаў беларускі мастак Уладзімір Блюднік. Выданне здзейсненае ў межах мастацкай стыпендыі Прэзідэнта горада Беластока.




**Белы Аляксей. Ад Грыўды да Гандвіка: эсэ, успаміны. – Мінск: Ковчег, 2015. – 152 с.: іл.**

Сёмая кніжка баранавіцкага літаратара, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра і Беларускай асацыяцыі журналістаў Аляксея Белага, што мае назву «Ад Грыўды да Гандвіка», – не проста аўтабіяграфічны аповед аўтара пра дзяцінства і юнацтва. У сваім эсэ ён спрабуе паказаць час, у які давялося жыць яго блізкім і яму асабіста: сталіншчыну, гады кіравання Хрушчова, перыяд застою. Кніга апавядае пра тое, як няпроста, і разам з тым шчыра і адкрыта, жылі людзі ў тыя далёкія гады.




**Клышка Алесь. Сустрэча. – Мінск: Смэлтак, 2014. – 80 с.**

У зборнік вершаў Алеся Клышкі ўвайшлі вершы, якія прасякнутыя шчырасцю, любоўю да сваёй Бацькаўшчыны, надзеяй на яе духоўнае адраджэнне. Яны – філасофскі роздум пра сэнс жыцця ў рэчышчы любові і духоўнасці. Зборнік адрасаваны дарослым і юным чытачам.




**Львович Майя. Мелодія щастя. Мелодыя шчасьця: Вірші білоруською та українською мовами. Передм. О. Ковальової. – Х.: Майдан, 2014. – 148 с.**

У кнізе сабраныя вершы розных гадоў паэткі Маі Львовіч на ўкраінскай і беларускай мовах.

Восем, восем дзесяткаў.
А квітуе душа ўсё.
Восень, а не згасла
Мелодыя шчасьця.




**Жураўскі Рычард. Старая ліпа: апавяданні і дарожныя нататкі. – Мінск: Печанко А. Г., 2014. – 92 с.**

Былы савецкі чалавек на зломе эпохі, на руінах недабудаванай «светлай будучыні» – вось галоўны герой гэтай кніжкі. Аўтар асэнсоўвае пражытыя гады, успамінае пару юнацтва, не без іроніі назірае за сучасным жыццём. Творы маюць выразную біяграфічную аснову.




**Тымнэттыкай Сергей. Московский автономный округ, или на краю Чукотки. Город Менск: повести. – Минск: А.Н. Янушкевич, 2015. – 150 с.: ил.**

У аповесцях чукоцкага пісьменніка ваенны паход войска Масковіі ў Чукотку ў XVII стагоддзі павярнуўся яе поўным разгромам і далучэннем рускіх земляў да Чукоткі. На гэтым фоне разгортваецца рамантычная гісторыя адносінаў чукоцкай журналісткі і беларускага этнографа.




**Няўвесь Алесь. Авохці мне!..: вершаваныя фельетоны. Мастак Алег Гуцал. – Смоленск: Універсум, 2015. – 432 с.**

«Авохці мне!» – калісь менавіта так ускліквалі беларусы, выказваючы роспач ці гора. У творах Алеся Няўвеся таксама гучыць гаркота і расчараванне з-за ўсяго ганебнага, што адбываецца ў нашым грамадстве. У зборніку змешчаны фельетоны, напісаныя ў 2014 годзе.




**Гамаюнов С.А. Давайте знакомиться (Апология авторской песни Беларуси) – Минск: «Медыял», 2014, – 576 с.**

Дадзенае выданне – першая спроба сканцэнтраваць пад адной вокладкай творчасць прадстаўнікоў паэтычнага «цэха» Беларусі, які спявае. Асновай кнігі паслужыў архіў даўняга збіральніка аўтарскай песні – Сяргея Гамаюнава. У кнізе падаецца кароткая біяграфічная нататка пра спевака, а таксама тэксты яго песняў.

# Прэмію імя Багдановіча ўручылі ў Музеі Багдановіча

**24 сакавіка былі абвешчаны лаўрэаты штогадовай літаратурнай прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча за 2014 год. Акрамя дыпломаў і медалёў лаўрэаты прэміі атрымалі ад Мясцовага фонду «Вяртанне» квіток на суму 30 мільёнаў беларускіх рублёў.**

Упершыню цырымонію ўзнагароджання пераможцаў прыняў у сябе Літаратурны музей Максіма Багдановіча, у зале, прысвечанай юбілею Народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

Лаўрэатамі прэміі сталі Аляксей Палачанскі з кнігай «Мой цвік» (намінацыя «Проза») і Таццяна Нядбай з кнігай «Сірэны спяваюць джаз» (намінацыя «Паэзія»).

Таксама ўсе лаўрэаты атрымалі ў падарунак ад ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» новую кнігу Народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча «У віры быцця» з аўтографам аўтара і пажаданнямі.



Аляксей ПАЛАЧАНСКІ і Павал БЕРАГОВІЧ.

У шорт-ліст прэміі таксама ўваходзілі дэбютныя кнігі Віталя Воранава «Шэптам» і Ромы Свечнікава «Рома едзе: кніга 1» (намінацыя «Проза»), Антона Рудака «Верхні горад» і Юлі Цімафеевай «Кніга памылак» (намінацыя «Паэзія»).

У намінацыі «Пераклад» прэмія сёлета не прысуджалася, але, у якасці кампенсацыі, паміж выступамі ўдзельнікаў гучалі вершы геніяльнага французскага паэта Поля Верлена ў перакладзе Максіма Багдановіча.

Увогуле, у гэтым годзе ў арганізацыі прэміі было шмат новаўвядзенняў. «Упершыню прэмія ўручаецца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча, упершыню мы паспрабавалі іншы склад журы, упершыню можам віншаваць пераможцаў каштоўнымі паперамі», – падкрэсліў старшыня Мясцовага дабрачыннага фонду «Вяртанне», фундатар і адзін з сяброў журы Павал Бераговіч.

Мадэраваў вечар старшыня ПЭН-Цэнтра Андрэй Хадановіч.

Аздабляў вечарыну фанкам, рокам, джазам і фолькам у адным флаконе гурт «Ілюжан».

**Нагадаем, прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча – адна з найважнейшых літаратурных прэміяў Беларусі. Даецца аўтарам ва ўзросце да 35 гадоў за творы ў жанрах, у якіх працаваў Максім Багдановіч: паэзія, проза, мастацкі пераклад. Заснаваная ў снежні 2010 года Беларускім ПЭН-Цэнтрам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў і Мясцовым дабрачынным фондам «Вяртанне» (г. Мінск). Сёлета прэмія ўручалася ў пяты раз.**

**Аляксандра Дварэцкая (тэкст) і Алена Казлова (фота) для lit-bel.org**


Віталь ВОРАНАЎ і Алесь ПАШКЕВІЧ.



Таццяна НЯДБАЙ.




**Плавінскі Мікалай. Скарбы, курганы, замкі і іх даследчыкі. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 134 с.: іл.**

У кнізе змешчаны краязнаўчы нататкі пра гісторыю і прыродныя асаблівасці роднага краю, асабістыя ўражанні аўтара ад сустрэчаў з цікавымі людзьмі. Вялікая ўвага надаецца адлюстраванню падзеяў Вялікай Айчыннай вайны і стваральнага будаўніцтва ў пасляваенны час, пошуку шляхоў вырашэння праблемаў сучаснага жыцця, знаходжання кожным чалавекам свайго месца ў ходзе змагання за свабоду і незалежнасць Радзімы.




**Лыч Леанід. Міжваенная беларусізацыя і яе ўрокі. – Мінск, 2014. – 234 с.**

Кніга прысвечана раскрыццю адной з самых адметных і ў той жа час трагічных старонак у гісторыі змагання беларускага народа за сваё нацыянальна-культурнае адраджэнне ва ўмовах існавання савецкай сістэмы. У ходзе такога лёсавызначальнага нацыянальнага руху з усёй паўнатой выявілася вялікае жаданне беларусаў быць народам з самабытнай культурай і мовай. Беларусізацыя не зрабіла іх такімі з-за масавых фізічных рэпрэсіяў 1930-х гадоў. Набыты ёю вопыт нацыянальна-культурнага Адраджэння і да нашых дзён уяўляе вялізную практычную каштоўнасць. Разлічана на шырокае кола людзей, заклапочаных праблемай выратавання беларускага народа ад страты сваёй нацыянальнай ідэнтычнасці.




**Мялік Аляксандр. Антон Жэбрак: Бацька беларускай генетыкі. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Антон Жэбрак (1902–1965), выдатны генетык і селекцыянер, акадэмік АН БССР, які паспяхова шукаў шляхі да стварэння новых гатункаў культурных раслінаў. Адначасова ён мужна змагаўся з прайдзісветамі, што ўчынілі пагром у савецкай біялагічнай навуцы.




**Міронава Леніна. Казімір Малевіч: Вялікі мастак з тутэйшых. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Казімір Малевіч (1878–1935) – сусветна вядомы мастак і тэарэтык мастацтва родам з Копыля. Ён заснаваў новы мастацкі кірунак – «супрэматызм», у якім адбіліся дзіцячыя ўражанні жыцця сярод беларускага сялянства. Стварыў у Віцебску гурт з некалькіх дзясяткаў мастакоў, што разнеслі супрэматызм па ўсім свеце.




**Довнар-Запольский Митрофан. Очерк истории Кривичской и Дреговичской земель до конца XII столетия. – Минск: Харвест, 2015. – 240 с.: ил.**

Гэта кніга «бацькі» беларускай гістарыяграфіі М. Доўнар-Запольскага выйшла ў свет ў 1891 годзе. З тых часоў яна не перавыдавалася, таму практычна невядомая сучасным чытачам. Між тым, яе змест па-ранейшаму ўяўляе значную каштоўнасць для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускага народа. Прапанаванае выданне складаецца з трох частак. У першай дадзена геаграфічнае апісанне земляў крывічоў і дрыгавічоў. У другой коратка выкладзена палітычная гісторыя Полацкага, Смаленскага і Тураўскага княстваў. У трэцяй, дадатковай, частцы змешчаны артыкулы шэрагу аўтараў, якія знаёмяць з сучаснымі поглядамі на гісторыю крывічоў і дрыгавічоў.




**Іванова Вольга. Асабістыя архівы Беларусі канца XVIII – пач. XXI ст. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 404 с.**

Разглядаецца гісторыя і стан захавання асабістых архіваў беларускіх дзеячаў навукі, культуры і грамадска-палітычнай сферы, пачынаючы з канца XVIII ст. Вызначаюцца кірункі іх пошуку, шляхі выкарыстання ў навуковых, культурных, сацыяльна-прававых, грамадска-палітычных мэтах. Даецца ацэнка асабістых архіваў як гістарычнай крыніцы і гісторыка-культурнага феномена.

Большая частка кнігі ўяўляе сабою даведнік, які ўтрымлівае звесткі пра больш як 1400 архіваў беларускіх дзеячаў у сховішчах Беларусі і краінаў замежжа.

Разлічана на даследчыкаў гісторыі і культуры Беларусі, архівістаў, супрацоўнікаў музеяў і бібліятэк, студэнтаў і шырокае кола аматараў айчыннай мінуўшчыны.




**Волкаў Мікола. Артылерыя Нясвіжскага замка. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2015. – 188 с.: іл.**

У кнізе на аснове дэталёвага вывучэння разнастайных крыніцаў разгледжана гісторыя фарміравання і развіцця артылерыі Нясвіжскага замка ў XVI–XVIII стст. Аўтар апісвае ролю артылерыйскага ўзбраення ў сістэме абароны старажытнай радзівілаўскай фартэцыі, звяртае ўвагу на пытанні абслугоўвання і забеспячэння артылерыі амуніцыяй і боепрыпасамі, арганізацыі і функцыянавання спецыяльных вайсковых падраздзяленняў, а таксама прасочвае лёс нясвіжскіх гарматаў у XIX–XX стст. Багаты ілюстрацыйны матэрыял дэманструе гісторыю артылерыі Нясвіжскага замка і ўнікальнае аздабленне яго гарматаў.

Для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй узбраення і вайсковай справы Беларусі перыяду Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай.




**Гісторыя Навагрудка – з глыбінь вякоў да нашых дзён = История Новогрудка – из глубин веков до наших дней [М. П. Касцюк і інш.], рэд. кал.: М. П. Касцюк (гал. рэд.). – Мінск: Белстан, 2014. – 592 с.: мал.**

На багатым дакументальным матэрыяле з айчынных і замежных архіваў, апублікаваных крыніцаў, гістарычнай літаратуры ўпершыню абагульнена пададзена гісторыя Навагрудка з глыбіняў вякоў да сучаснасці. На аснове археалагічных дадзеных адлюстраваны вытокі горада, яго станаўленне, узвядзенне замка і іншых пабудоваў. Раскрыта гісторыя горада як аднаго з цэнтраў дзяржаваўтварэння на беларускіх землях, першай сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, затым цэнтра ваяводства, павета, раёна, а таксама рэлігійна-канфесійнага жыцця. Паказаны вехі эвалюцыі горада ў грамадскім, эканамічным, сацыяльным, культурным напрамках. Удзелена ўвага штодзённай дзейнасці гараджанаў. Кніга прымеркавана да 970-годдзя першай летапіснай згадкі пра горад.




**Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. №37. – Навукова-папулярны альманах аб беларускай эміграцыі. – Belarusan Institute of Arts and Sciences: New York–Miensk, 2014. – 862 с.**

У гэтым нумары «Запісаў БІНіМ» знайшлі сваё месца тры тэмы: «Біяграфіі», у раздзелах якой змяшчаюцца матэрыялы, прысвечаныя канкрэтным асобам эмігрантаў; беларуская прысутнасць у Францыі і «Пражскія беларусы». Гэты выпуск «Запісаў БІНіМ» традыцыйна рэпрэзентуе разнастайныя матэрыялы, прысвечаныя мінуламу і сучаснасці беларускай эміграцыі, маючы на мэце падаць новыя факты і тэмы ў беларускім эміграцыязнаўстве.




**Сохар М.Ю. Набыццё майстэрства. Рэжысёрская школа Беларусі: манаграфія. – Мінск: А.М. Вараксін, 2014. – 272 с.**

Манаграфія прысвечана актуальным праблемам фарміравання і развіцця рэжысёрскай адукацыі ў Беларусі ад сярэдзіны XX да пачатку XXI ст. Даследуюцца асноўныя этапы станаўлення рэжысёрскай школы драматычнага тэатра, аналізуюцца працэсы рэжысёрска-педагагічнай паслядоўнасці ад нацыянальных традыцыяў, рускай тэатральнай школы да мастацкіх методык і прынцыпаў майстроў-настаўнікаў: Е.А. Міровіча, А.А. Яфрэмава, К.М. Саннікава, Б.А. Мардзвінава, Д.А. Арлова, В.П. Рэдліх, У.А. Маланкіна, В.М. Раеўскага, Б.І. Луцэнкі, Р.І. Баравіка, В.У. Катавіцкага і інш. Асэнсоўваюцца сучасныя тэндэнцыі і працэсы, якія адбываюцца ў беларускай рэжысёрскай адукацыйнай сістэме.

Кніга разлічана на навукоўцаў, дзеячаў культуры і мастацтва, выкладчыкаў і студэнтаў творчых навучальных установаў, а таксама на аматараў тэатральнага мастацтва.




**Шахоўская, С.У. Назвы азёр Беларусі: слоўнік; навук. рэд. П.А. Міхайлаў. – Мінск: Медысонт, 2014. – 382 с. [+ 1 электрон. апт. дыск]**

Слоўнік «Назвы азёр Беларусі» з'яўлясцца першай спробай сістэматызацыі і лінгвістычнага апісання беларускіх лімнонімаў. У выданні зафіксавана 3746 беларускіх найменняў, да якіх падаюцца граматычная характарыстыка і экстралінгвістычная інфармацыя. Прыводзяцца рускія адпаведнікі беларускіх назваў азёр. Выданне прызначана спецыялістам у галіне беларускай анамастыкі, геаграфіі, выкладчыкам і студэнтам вышэйшых навучальных установаў.




**Зайка Алесь. Прыказкі і прымаўкі, жарты і каламбуры, прыгаворкі і языкаломкі, вясельныя прыгаворкі пры дзяльбе каравая, вітанні і зычэнні, ветлівыя і ласкавыя выразы, засцярогі і прысяганні, праклёны і адкляцці, жартоўныя праклёны і дражнілкі-кепікі, зневажанні і параўнанні, прыкметы народнага календара з Косаўшчыны. – Мінск: Тэхналогія, 2015. – 286 с.**

Гэтая кніга – першае сістэматызаванае апісанне парэміялагічнага і фразеалагічнага багацця мовы жыхароў аднаго з куткоў Беларусі – радзімы Тадэвуша Касцюшкі. Запісы фальклорнага матэрыялу зроблены даследнікам у 1969–2014 гадах. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.




**Баярын Міхаіл. Уводзіны ў традыцыйны санскрыт. – Vilnius: Logvino literatūros namai, 2014. – 441 с.**

Санскрыт – гэта мова старажытнаіндыйскай традыцыі, што мае тысячагадовую гісторыю ўласнага моваазнаўства. Гэты падручнік уяўляе сабою ўводзіны ў традыцыйную граматыку санскрыту і разлічаны на паўгады навучання. Ён стварае цэласнае ўяўленне пра граматычную сістэму санскрыту, засяроджваючы ўвагу на асноўных правілах і пакідаючы па-за ўвагаю многія выняткі. Абсяг падручніка дастатковы, каб зрабіць магчымым чытанне арыгінальных санскрыцкіх тэкстаў са слоўнікам.

# «Найлепшыя пісьменнікі – журналісты...»

(Пачатак на стар. 1)

Журналістыцы мы абавязаны ўменнем слухаць і задаваць пытанні. Газета вучыць падбіраць словы, увазе да дэталі. Мець чуйнае вуха. Фармуляваць і выказваць думкі. Яна вучыць быць сціслым. А таксама рэгулярна працаваць і пісаць, пры патрэбе, шмат, што якраз неабходна раманісту. І журналісцкая праца, і проза вучаць аднаму – расстаўляць словы ў патрэбным табе парадку. Калі пішаш, міжволі шукаеш рытму. Чаргуючы абраныя табою дзве ролі, падтрымліваеш свой рытм пісьма.

**– Нядаўна стала вядома, што Вы напісалі алегарычны раман «Багуславія» – 520-старонкавы твор пра гістарычныя лёсы, рыцарства і яго знішчэнне. Як узнікла ідэя рамана? Што Вас натхніла на напісанне гэтага твора?**

– Для тых, хто піша апавяданні, будзе знаёма: табе аднойчы пачынае хацецца чагосьці большага. Але гады ідуць, а ты ніяк не можаш узяцца за тое, чаго ніколі не рабіў. Восенню 2008-га ў Гродне быў Уладзімір Арлоў. Мы былі каля Новага замка і размаўлялі аб унутранай патрэбе напісаць раман. У чэрвені 2010-га я быў у Гурзуфе, дзе пазнаёміўся з пісьменнікам Дзмітрыем Быкавым. Там захавалася адна вуліца са старой забудовай, з татарскімі дамамі таксама. Мы ўвечары шпацыравалі з жонкай і яе каляжанкай. І я кажу: вось гэты чалавек вельмі нагадвае маскоўскага пісьменніка Быкава. А ён: а гэта я і ёсць. Нядаўна я прачытаў яго раман «Арфаграфія» і сказаў пра гэта. А ён паказвае, што пісаў «Арфаграфію» ў татарскім доме драўляным на другім паверсе, ля якога мы стаялі. Потым мы сустрэліся і размаўлялі пра літаратуру. І я прызнаўся, што хачу напісаць раман, але пакуль ты рэпарцёр, узяцца за яго не атрымліваецца. Ён запярэчыў: самыя лепшыя пісьменнікі – гэта журналісты, спалучаць адно з другім не цяжка, а цікава. (Вядома, што сам Быкаў – прыклад гэтага). Раз сабраўся пісаць, трэба пісаць, сказаў ён. З ім быў сябра, пісьменнік-фантаст Міхаіл Успенскі (ён нядаўна памёр), які параіў: трэба не сумнявацца, проста пачаць і праца пойдзе. А сапраўды, у мяне якраз намячаецца творчая паездка на Готланд, можна будзе якраз паспрабаваць, гавару. А Быкаў мне: ну, а чым жа там яшчэ займацца?

На Готландзе адразу вырашыў: трэба працаваць метадычна. І я ўставаў у 4-5 гадзінаў, запарваў каву і пісаў. Асновай была гісторыя пра тое, як да народа багуславаў, дзякуючы збегу акалічнасцяў, вярнуліся іхнія два рыцары, Абаронца і Заступнік, пахаваныя ў падмурках гісторыі і затым абылганыя. Але ў душы багуславаў месца для рыцараў не знайшлося. І я стаў дашуквацца: як і чаму рыцары аказаліся непатрэбнымі? Атрымаўся антырыцарскі раман, у якім некалькі паверхаў, таксама падземных. Выйшла, што мне спатрэбіліся ўражанні, якія назапашваліся яшчэ са школы, можна сказаць, што цэлых сорак гадоў.

Паездка на Готланд стала магчымай дзякуючы нашаму Саюзу пісьменнікаў. Мне даслалі запрашэнне з Балтыйскага цэнтра пісьменнікаў і перакладчыкаў у Вісбю. Каб не атрымаў такую магчымасць, я не змог бы сесці грунтоўна за такую рэч, як раман. Напісаў яго за 4 гады і 4 месяцы. І ўсвядоміў тады, што за такі вялікі твор можна ўзяцца толькі аднойчы ў жыцці, прынамсі ў нашых канкрэтных умовах. Каб закончыць яго, патрэбна была менавіта метадычная праца. Нярэдка ўставаў у 4-5 гадзінаў, як на Готландзе. Увайсці ў раман аказалася лягчэй, чым думаў, выйсці было цяжэй, паставіць нарэшце кропку. Але ў канцы чакала пэўная расчараванасць. Ты зрабіў нікому рэальна не патрэбную, у нашых умовах, працу – што далей?

На сёння «Багуславію» чытаў толькі адзін чалавек, Уладзімір Някляеў. Напэўна, яму не магло ўсё спадабацца, але ён мяне падтрымаў. Справа зусім не бессэнсоўная, напісаў ён, заўсёды застаюцца большыя рэчы. Піраміды, напрыклад… Для любога было б вельмі важным меркаванне аднаго з нашых самых вядомых пісьменнікаў, раней старшыні Саюза пісьменнікаў і ПЭН-Цэнтра, лаўрэата прэміі Гедройца.

**– Вы нарадзіліся ў Мінску, але потым з бацькамі жылі ў прыгарадах Берліна, школу скончылі ў Літве, у 1984 годзе, пасля заканчэння факультэта журналістыкі БДУ, прыехалі ў Гродна, дзе жывяце да сёння ды апісваеце жыццё горада над Нёманам. Чым Вас так прывабіла Гродна?**

– Першым домам, у якім я пабываў у Гродне, быў Новы замак. Пасля размеркавання ў БДУ ў Мінску я абавязаны быў з'явіцца ў абкам КПБ, што займаў былы каралеўскі замак, у ідэалагічны аддзел. Там павінны былі канчаткова вызначыць мой далейшы лёс. Яны паглядзелі на маё прозвішча і вырашылі накіраваць у самы далёкі райцэнтр, у Астравец, за дзвесце кіламетраў. Але мне так спадабаліся сфінксы на замкавай браме, што я вырашыў не спяшацца.

Другім месцам, куды я трапіў у Гродне, стаў дом Элізы Ажэшкі. З абкама я пайшоў на вакзал. Бачу: такі дом цікавы і шыльда – тут знаходзіцца філія Саюза пісьменнікаў. Я ўзяў ды зазірнуў. Сустрэў мяне незадаволена Аляксей Карпюк. Я сціпла сказаў, што зайшоў пазнаёміцца, што спадзяюся працаваць у газеце і паказаў выразкі з «Голаса Радзімы» і «Літаратуры і Мастацтва», у прыватнасці сваю рэцэнзію на апошні раман Уладзіміра Караткевіча. Але я са сваімі выразкамі Карпюка не зацікавіў. Ён знянацку ўзяў «Нёман» і стаў пахваляць Тадзіка з далёкага райцэнтра, які надрукаваў у часопісе сваю аповесць, на рускай мове. Адносіны ў нас адразу не складаліся: я не быў Тадзікам. Неўзабаве той Тадзік ці ў Расію з'ехаў, ці проста недзе знік. Карацей, больш пра яго не чулі. І раптам днямі я адчуў сапраўднае дэжавю. На прэзентацыі нашага альманаха ў Новым замку адзін з крытыкаў паставіў прысуд апавяданням трэцяга нумара: шкада, не хапае нашаму «Новаму замку» прозы Тадзіка, сказаў ён з настальгіяй. Прайшоў усяго 31 год з часу той Тадзікавай публікацыі… Не кажучы: проза ў нас друкуецца на беларускай мове. І ўсё астатняе таксама. А Тадзік па-беларуску, мабыць, ленаваўся.

Так што ні ў Новым замку, ні ў доме Ажэшкі мяне не сустрэлі цёпла. Але я ўсё роўна прыжыўся ў горадзе, дзе жылі некалі цікавыя для мяне асобы, напрыклад, Стэфан Баторы, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Гродна – месца, дзе можна жыць, хоць я б тут усё перарабіў. У горада няма гаспадара, рэшткі гістарычнага духу няўмольна знікаюць.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Кася Сянкевіч. Гарбата з незабудак. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 55).**

Кася Сянкевіч – беларуская паэтка і мастачка з Польшчы – ужо з'яўляецца аўтаркай вершаванага зборніка «Дачка ружы». Дзякуючы серыі «Кнігарня пісьменніка» і выдавецтву «Кнігазбор» яе творы ўпершыню прадстаўлены беларускім чытачам.

За кубачкам «Гарбаты з незабудак» Кася Сянкевіч у пранізлівых маналогах-споведзях разважае пра вечныя тэмы кахання, веры, пошуку свайго месца ў жыцці і сусвеце. Форма, абраная паэткай, – верлібр, – дазваляе выбіраць найбольш дакладныя і змястоўныя мастацкія сродкі для выказвання самых тонкіх пачуццяў.




**Анатоль Кудравец. Зязюля пракукуе заўтра... – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 272 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып 54).**

У кнігу прызнанага майстра прозы Анатоля Кудраўца ўвайшлі выбраныя апавяданні (сярод якіх – культавае «Смерць нацыяналіста») і аповесць «Развітанне», што раскрываюць стылістычную каларыстыку, грамадзянскую актуальнасць і багаты змест твораў празаіка. Гэтае выданне фактычна сталася мемарыяльным: Анатоль Паўлавіч спачыў у вечнасці ў траўні гэтага года.

«Вясна, як і хвароба, пачынаецца з прадчування. Яшчэ на дварэ мароз, быццам зіма ў самай сіле ці нават набірае разгон, хапнеш раніцай носам паветра – і закіпяць на вачах слёзы. І снег валіць – машыны не паспяваюць вывозіць за горад. А падыдзеш да акна, зірнеш на шэрае з прозеленню неба, на вугал суседняга дома, – снег ля яго асеў, закрамянеў ад сонца, – і нешта варухнецца ўсярэдзіне: вясна, яшчэ адна вясна...» (з «Успаміну пра шэршня»).




**Артур Конан Дойл. Прыгоды Шэрлака Холмса. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 344 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

У кнігу ўвайшлі пераклады, зробленыя Ганнай Янкута, Аленай Казловай, Аленай Пятровіч, Кацярынай Мацiеўскай, Аляксеем Арцёмавым. Прадмову да зборніка напісала Кацярына Мацiеўская. Некаторыя апавяданні са зборніка друкаваліся ў «Дзеяслове», «ПрайдзіСвеце» і «Літаратурнай Беларусі», аднак гэта першае асобнае выданне твораў пра Шэрлака Холмса па-беларуску.

«Не ва ўсіх гісторыях з гэтай кнігі расследуюцца заблытаныя злачынствы, але Шэрлак Холмс ведае: часам нават за простай справай стаіць сапраўдная таямніца, і разабрацца з ёй будзе не прасцей, чым з самым загадкавым забойствам».

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 31
красавік, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 31 24.04.2015.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com